# КРЫВІНКА

ТРАВЕНЬ
№ 8 (180)
2016 год

ІНФАРМАЦЫЙНА-КУЛЬТУРНАЯ ГАЗЕТА БЕШАНКОВІЦКАГА РАЁНА



НАША ЖЫЦЦЁ

## ПАНТОННЫ МОСТ НЕ ПРАЦУЕ

**Ужо некалькі дзён пантонны мост у Бешанковічах не функцыянуе. Яго знесла высокай вадой. Цяпер на пад'ездзе да пераправы вас сустракае невясёлы малюнак – знак “STOP“.**

Вада ў рацэ сапраўды высокая, якой не было і ўвесну.

Вайскоўцы, відаць, аказаліся не гатовымі да хуткага ўздыму вады. Мост сарвала з месца і развярнула ўздоўж ракі. Яго “злавілі”, і цяпер ён стаіць уздоўж Дзвіны, прывязаны да дрэваў. Адно з іх ледзь не вырвала з карэннем.

Трэба дзякаваць Богу, што пантоны не знесла ў Прыбалтыку! А такое на маёй памяці ўжо было гадоў дваццаць-дваццаць пяць таму. Тады куплены недзе ў вайскоўцаў пантонны мост добра не замацавалі, і ён паплыў да вусця Дзвіны.

Думаецца, што на гэты раз гісторыя будзе мець іншае сканчэнне. Мост разбяруць і зноў паставяць на старое месца. Пытанне ў тым, колькі часу на тое патрэбна вайскоўцам. Пакуль што 29-га мая мост не працуе.

**Г.Станкевіч**

НАВІНЫ ФУТБОЛА

## ПЕРАМОГА БЕШАНКОВІЦКІХ ФУТБАЛІСТАЎ

**19-га траўня ў Віцебску адбыўся фінал абласнога турніру па футболу на прызы "Кока-кола" сярод дзяцей 2002-2003 гадоў нараджэння.**

Каманда з Бешанковіч трапіла ў адну групу з камандамі з Гарадка, Ушачаў і Чашнікаў. Усе тры гульні нашых футбалістаў закончыліся перамогай.

Удругой падгрупе, дзе гулялі каманды з Наваполацка, Полацка, Мёраў і Першамайскага раёна г.Віцебска, перамагла каманда з Мёраў.

У фінале каманда з Бешанковіч перамагла каманду з Мёрскага раёна..

Такім чынам, сярод 24-х каманд, якія прынялі ўдзел у абласным турніры на прызы "Кока-кола", лепшымі сталі бешанковіцкія футбалісты. Яны выступяць у Мінску 1-га чэрвеня на заключнай стадыі спаборніцтва, дзе сустрэнуцца з пераможцамі спаборніцтваў з іншых абласцей..

Трэніруе бешанковіцкіх футбалістаў Аруцюн Манукян.

**А.Тутэйшы**

*Мне хапае ўсяго –*
*і цяпла, і спагады, і сонца,*
*і чаромхавых рэк,*
*і адчайных вішнёвых завей,*
*дзьмухаўцовых палёў залатых,*
*быццам мора, бясконцых,*
*і бязмежнасці зор,*
*што начамі ў абдымкі заве.*

*Мне хапае шляхоў,*
*што Ўсявышні аднойчы адмерыў,*
*я прырос да сцяжын,*
*што мяне паўстагоддзя вялі.*
*Я гадоў не прашу,*
*каб надаць майму веку*
*бязмернасць,*
*досыць тых, што зязюля*
*мне ўжо налічыла калісь.*

*А калі Усявышні*
*зрабіць падарунак захоча*
*і спытае мяне:*
*“Чаго прагнеш – скажы, чалавек?”*
*Папрашу аднаго –*
*твае бачыць шчаслівыя вочы,*
*дзе хмурынак няма,*
*дзе святло і пяшчота жыве.*

*Г.Станкевіч*



ПАЛІТЫКА

## ПАЕДУЦЬ НА ЎСЕБЕЛАРУСКІ НАРОДНЫ СХОД

**У Бешанковічах абралі пяць дэлегатаў для ўдзелу ў пятым Усебеларускім народным сходзе, на якім будуць абмяркоўвацца прыярытэты развіцця на бліжэйшую пяцігодку і ключавыя пытанні жыццядзейнасці краіны.**

Гэта старшыня раённага выканаўчага камітэта Леанід Пянькоўскі, старшыня раённага Савета дэпутатаў Генадзь Шведаў, дырэктар Бешанковіцкага камунальнага ўнітарнага прадпрыемства меліяратыўных сістэм "Бешанковічы ПМС" Іван Карпук, жывёлаводка 5-га разраду ЗАТ "ААБ-Агра Наватар" Таццяна Абліцова і намеснік дырэктара па вучэбнай рабоце ДУА "Сярэдняя школа №2 г. п. Бешенковічы" Любоў Дзеравяга.

Яны разам з двума з паловаю тысячамі беларусаў будуць мець магчымасць выказаць пункт гледжання па тым ці іншым пытанні, абмеркаваць праблемныя моманты, намеціць шляхі іх вырашэння. Інакш кажучы, будуць мець магчымасць шукаць канкрэтныя рашэнні і рабіць канкрэтныя прапановы на бліжэйшую пяцігодку.

Колькасць дэлегатаў ад адміністрацыйных адзінак залежыць ад колькасці паўналетніх грамадзян, якія пражываюць на тэрыторыі: 1 дэлегат ад 2831 чалавека старэй за 18 гадоў. Усяго дэлегатамі пятага Усебеларускага народнага сходу ад Віцебскай вобласці стануць 350 чалавек.

**М.Васільеў**
**па матэрыялах “Зары”**

ЛЕТА–2016

## БЯСПЕЧНЫЯ КАНІКУЛЫ

**З пачаткам канікул у школах у дзяцей стане значна больш вольнага часу. Менавіта ў гэты перыяд бацькі павінны надаць асаблівую ўвагу таму, чым займаецца іх дзіця, і не пакідаць дзяцей без нагляду.**

1-га чэрвеня 2015 года ў г. Пінску каля пад'езда дома пад напружанне трапіў хлопчык 2005 года нараджэння, які катаўся на ролікавых каньках. Ён для большай устойлівасці адначасова ўзяўся за трубу газаправода і ручку адкрытых металічных ўваходных дзвярэй пад'езда, патрапіўшы пры гэтым пад дзеянне электрычнага току. Папярэдні дыягназ - апёкі 3-й ступені кісцяў рук. Пры аглядзе электраўстановак кватэр дома ўстаноўлена, што вынас электрычнага патэнцыялу на трубу газаправода адбыўся ад газавай пліты, усталяванай у адной з кватэр.

12-га красавіка 2016 года ў г. Петрыкаве Гомельскай вобласці каля металічнай апоры МІ-ЮкВ ВКЛ, размешчанай на беразе затокі Бычок, было знойдзена цела падлетка 2002 года нараджэння без прыкмет жыцця. Паводле папярэдняй інфармацыі, пацярпелы з групай падлеткаў знаходзіўся на беразе затокі Бычок, падняўся на металічную мачту апоры для правядзення фотаздымкі, наблізіўся на недапушчальную адлегласць да правадоў высакавольтнай лініі і быў забіты электрычным токам.

Звярніце ўвагу школьнікаў на смяротную небяспеку, што пагражае ў выпадку пранікнення ў дзеючыя электраўстаноўкі, набліжэння на недапушчальную блізкую адлегласць да токаводных частак, якія знаходзяцца пад напругай, і траплення пад так званае крокавае напружанне, якое ўзнікае ў зоне абрыву і падзенні на зямлю правадоў ліній электраперадачы, а таксама на выкарыстанне саматробных электрапрыбораў.

Грамадзяне, не заставайцеся абыякавымі пры выглядзе адчыненых дзвярэй у трансфарматарных падстанцыях, электрашчытавой, павярховых электрашчытах - неадкладна паведамляйце пра гэта ў дыспетчарскую службу Бешанковіцкага РЭС, УКП ЖКГ "Бешанковіцкі камунальнік» або сельвыканкам, не праходзьце паўз дзяцей, якія гуляюць у непасрэднай блізкасці да ліній электраперадачы.

Аляксандр Варонін, дзяржаўны інспектар па энергетычным наглядзе Бешанковіцкай РЭІ.

НАВІНЫ ФУТБОЛА

## СТАРТАВАЛІ З ПАРАЖЭННЯ

**У першым туры чэмпіяната вобласці па футболе ФК “Бешанковічы” гуляў у гасцях з ФК “Сянно”. Вядома, што сенненцы – чэмпіёны вобласці 2015 года, і гэта гаворыць за сябе аб іх узроўні гульні.**

Гульню наша каманда прайграла, але не безнадзейна. Лік у матчы ўжо на 11-й хвіліне са штрафнога ўдара адкрыў лідар сенненцаў Талсташоў. Спачатку на 19-й а потым на 26-й хвіліне ён жа аформіў хет-трык. Ячэ праз хвіліну лік стаў ужо 4:0. Запахла разгромам. Але пад самы свісток на перапынак наша каманда забіла першы гол у сезоне, а на 67-й хвіліне – другі. Гульня закончылася з лікам 6:2 на карысць гаспадароў.

Два галы чэмпіёну на ягоным полі – гэта нядрэнны вынік для стартавай гульні. Пачакаем першай гульні на сваім полі. У нядзелю 5-га чэрвеня ў Бешанковічы прыязджае гарадоцкі “Прамень”, адзін з лепшых клубаў чэпміянату. У першым туры ён нанёс паражэнне навічку камандзе з Барані (Аршанскі раён) з лікам 4:0.

Прыдзем на стадыён падтрымаць нашу каманду!

**Г.Станкевіч**

ПАВЕДАМЛЯЕ КДК

# ШМАТЛІКІЯ ПАРУШЭННІ Ў ГАНДЛІ

**Камітэт дзяржаўнага кантролю Віцебскай вобласці выявіў парушэнні пры гандлёвым абслугоўванні сельскага насельніцтва ў Бешанковіцкім раёне, паведамілі карэспандэнту БЕЛТА у кантрольным ведамстве.**

КДК Віцебскай вобласці вывучыў стан спажывецкага рынку ў Бешенковичком раёне - у пачатку траўня быў праведзены маніторынг у васьмі сельскіх гандлёвых аб'ектах трох суб'ектаў гаспадарання. Кантралёры выявілі шэраг парушэнняў патрабаванняў заканадаўства, якія сведчыць аб адсутнасці належнага кантролю над якасцю гандлёвага абслугоўвання насельніцтва. У ліку парушэнняў нездавальняючы забеспячэнне пакупнікоў айчыннымі таварамі, прадугледжанымі асартыментным пераліку, у шасці аб'ектах гандлю парушаліся правілы продажу тавараў.

У прыватнасці, у рэалізацыі знаходзілася тавары з даўно мінулымі (да 20 дзён) тэрмінамі прыдатнасці, на некаторых таварах не было цэннікаў. У трох гандлёвых аб'ектах не было забяспечана выкананне патрабаванняў санітарных норм і правілаў пры захоўванні харчовых прадуктаў.

Так, напрыклад, жыхароў вёскі Мамойкі абслугоўваў аўтамагазін Бешанковіцкага райпо - на момант правядзення маніторынгу рэалізацыя тавараў вялася ў неспецыялізаваным (прыстасаваным) аўтамабілі. Да таго ж высветлілася, што апошняя санітарная апрацоўка транспартнага сродку была праведзена амаль 7 месяцаў таму, а па правілах такая апрацоўка павінна праводзіцца штомесяц.

Парушаліся патрабаванні захоўвання харчовых прадуктаў: у адной маразільным скрыні разам захоўваліся гатовыя да ўжывання харчовыя прадукты, паўфабрыкаты, а таксама прадукцыя, якая мае спецыфічны пах і якая ўспрымае яго (рыба свежамарожаная, пельмені, сыр, свініна, тварог, маргарын, марозіва, масла). Акрамя таго, харчовыя тавары (каўбасныя вырабы, сыр, малако ў пакетах, кефір у пакетах), якія патрабуюць пэўных тэмпературных рэжымаў, захоўваліся пры тэмпературы плюс 20 градусаў.

Па выніках маніторынгу ўсім кіраўнікам гандлёвых арганізацый вынесены рэкамендацыі па ліквідацыі парушэнняў. Для прыняцця мер рэагавання і ўзмацнення папераджальнага кантролю інфармацыя накіравана ў Бешанковіцкі райвыканкам.

**По матэрыялах БелТА**

ЗДАРЭННІ

# ЗАГІНУЎ МУЖЧЫНА

**6-га мая ў 20.20 на сенненскім скрыжаванні адбылося ДТЗ са смяротным зыходам.**

42-гадовы кіроўца аўтамабіля «ГАЗ», пры выездзе на галоўную дарогу не выканаў патрабаванне дарожнага знака «Рух без прыпынку забаронены». Ён здзейсніў сутыкненне з аўтамабілем «Опель», які рухаўся па галоўнай дарозе і якім кіравала 31-гадовая жанчына, пасля чаго аўтамабіль "ГАЗ" перакуліўся.

У выніку 22-гадовы мужчына, які ехаў ў аўтамабілі "ГАЗ", атрымаў траўмы, ад якіх памёр пры транспартыроўцы ў бальніцу.

Узбуджаная крымінальная справа па ч. 2 арт. 317 КК (Парушэнне правілаў дарожнага руху або эксплуатацыі транспартных сродкаў, што пацягнула па неасцярожнасці смерць чалавека). Сведак ДТЗ просяць патэлефанаваць па тэлефоне ў Віцебску 8-0212-46-20-40 (аддзел па расследаванні злачынстваў супраць бяспекі руху і эксплуатацыі транспарту) або 102.

Інфармацыю можна таксама паведаміць па адрасе: Віцебск, Маскоўскі праспект, 51А, кабінет 608.

**М.Васільеў**
**па матэрыялах міліцэйскага сайта**

# ЗАБІЛІ ПЕНСІЯНЕРА

**У вёсцы Радзюкі Бешанковіцкага раёна ў 05:30 у двары свайго дома знойдзены труп пенсіянера са слядамі збіцця.**

Папярэдне ўстаноўлена, што яго ў 20:00 у сварцы, пасля сумеснага распівання спіртных напояў, збілі аднавясковец, 1989 г.н. і яго сястра, 1986 г.н., жыхарка в. Бароўка Лепельскага раёна. Яны абодва непрацуючыя, раней неаднаразова судзімыя, затрыманыя.

**М.Васільеў**
**па матэрыялах міліцэйскага сайта**

АХОВА ЗДАРОЎЯ

# БЕЛОРУССКОЕ ЗДРАВООХРАНЕНИЕ

**«И где ты увидела новость? – спросил по скайпу мой давний приятель Илья.**
**Я пересказывала ему недавние новости о перебоях с лекарствами и тест-системами для ВИЧ-инфицированных.**

«Это не новость, это было всегда. А тест-систем всегда или не было вообще, или были, но с истекшим сроком годности. Тоже мне, удивила. Знаешь, как эти тесты в Беларуси делают? Используют одну тест-систему на 50 порций крови. Потому что дефицит», - сказал приятель.

С Ильей мы когда-то вместе учились в младших классах и сидели за одной партой. Общаемся и теперь, спустя много лет. Вот только в последнее время – лишь виртуально. В 2009 году Илья уехал в Швецию, чтобы спасти собственную жизнь. Его не преследовали спецслужбы, ему не угрожал арест. Просто у Ильи ВИЧ-инфекция. Диагноз поставили двадцать лет назад. А в 2009 году объявили, что у него терминальная стадия. То есть – финал. Жить оставалось, по прогнозам, два месяца.

И тогда он решил бежать от смерти. Потому что в Европе – это знали все белорусские ВИЧ-инфицированные – шансов выжить намного больше. Вернее, очень много.

Я ничего не буду добавлять к его рассказу о разнице белорусского и европейского отношения к лечению ВИЧ-инфекции и к самим больным. Просто привожу дословно его рассказ. Впрочем, кое-что все-таки добавлю: после лечения в Швеции в крови Ильи вирус не обнаруживается.

«Нас долгие годы пичкали таким старьем, которое уже не использовалось во всем мире. Я приехал в Швецию с шестью килограммами препаратов – на всякий случай. Когда здешний шведский врач их увидел, он спросил:

- И как давно вы это пьете?
- Да уже два года, - отвечаю.
- Странно, почему оно вас еще не убило.

А через три месяца врачи мне сказали: «Вы были в таком состоянии, что мы не знали, ответите на лечение или нет. Мы, честно говоря, думали, что через два месяца вас уже не будет в живых». То же самое мне сказал профессор в минской инфекционке. В Швеции, объяснили мне, прекратили пользоваться этими препаратами еще в 1996 году, только попробовав их!

В Беларуси, когда определили терминальную стадию, мне действительно уже ничего не помогало. И я просто решил попытаться выжить – дома мне до смерти действительно оставалось месяца два. И когда я пришел в городскую инфекционную больницу к профессору – по-моему, его звали Александром Михайловичем – и сказал, что уезжаю в Швецию, он начал танцевать от радости. Он сказал: «Илья, вы себе не представляете, как я рад». Он понимал, что здесь мне не выжить, а в Европе появляется шанс.

Кстати, после того как недавние анализы здесь, в Швеции, вообще не показали никакого вируса, меня перевели на другие препараты. А потом и их обещали уменьшить, потому что все хорошо. Я наконец стал себя чувствовать нормальным человеком. Знаешь, я снова начал простужаться, как все здоровые люди. Сопли – свойство здорового человека, запомни. Пока я пил таблетки дома, у меня ничего подобного не было, а чувствовал себя ужасно. Эти препараты, которыми меня лечили в Беларуси, вызывали, помимо всего прочего, дикие боли: ощущение было, будто стекла наелся. У меня нет никаких претензий к белорусским врачам: они действительно пытаются лечить. Но могут назначать только то, что есть в Беларуси. А то, что есть, - убивает. Мои врачи говорили: «Пойми, мы лечим тем, что есть, мы не можем комбинировать препараты, потому что нечего комбинировать». Минздрав закупает одно и то же для всех, хотя у всех разные формы, разные стадии. Одно и то же лечение для начальной и терминальной стадий – нормально? В Европе препараты комбинируют, подбирают индивидуально. Когда в 2012 году, приехав в Минск, я зашел в «инфекционку» и разговорился с врачами, они сказали: с тем, что нам приходится назначать ВИЧ-инфицированным, мы процентов восемьдесят пациентов потеряем.

Многие больные из провинции пытались пробиться в Минск, потому что здесь кладут в инфекционную больницу, в профильное отделение. В районных больницах нет ни отделений, ни специалистов. Они что-то лечат, но не понимают, что именно. И все хотели попасть к Елене Михайловне, заведующей отделением. Она несколько раз ездила на семинары за границу. Я как раз лежал в больнице, когда она вернулась из очередной поездки. Она говорила: «Когда посмотришь, как лечат в Европе, понимаешь, насколько мы нищие. У нас есть эти три таблетки, и других не будет. А там творят чудеса». И когда я приехал после двух лет лечения в Швеции и привез результаты своих анализов, Елена Михайловна сказала лишь одну фразу: «Что и требовалось доказать».

В Швеции мне сказали, чтобы я немедленно выбросил все препараты, которые вез из Беларуси. Кстати, здесь комбинацию лекарств назначает даже не врач, а консилиум – для каждого больного индивидуально, и только на две недели. Смотрят, как реагирует больной, и либо что-то меняют, либо оставляют. Говоришь, в Беларуси начали производить собственные препараты? Я представляю, что они могут произвести...

А в России, по-моему, и вовсе мрут. Там используют лекарства с истекшим сроком годности. И те, кто хочет выжить, вынуждены покупать их за свои деньги. Но там хоть купить можно. А в Беларуси и этого нельзя. Не продают. Здесь, в Швеции, я тоже не плачу за препараты. Но я вижу чеки - на 50-60 тысяч крон, между прочим.

Кстати, однажды, когда я ждал решения миграционного управления, а оно могло оказаться отрицательным, мой лечащий врач Мария прервала отпуск и прилетела из Норвегии домой, чтобы на всякий случай выписать мне препараты на полгода вперед. Если бы депортировали – по крайней мере, полгода я бы принимал нормальные лекарства. Здесь, в Швеции, даже нелегалов с ВИЧ-инфекцией лечат бесплатно.

Я помню, как первый раз лежал в больнице в Минске. Ко мне заходили исключительно в костюмах химзащиты – как в чумной барак. В палате стояло ведро, которое я сам должен был заливать хлоркой, второе ведро для пищевых отходов и третье - для замачивания посуды. Их я тоже должен был заливать хлоркой. А потом я попал в кабинет к главврачу. И когда случайно положил руки на стол, главврач взвизгнула «руки со стола убери!» и начала тут же посыпать его какими-то химикатами.

Но обычные врачи, медсестры, санитарки, завотделением Елена Михайловна, блестящий врач Наталья Антоновна Росса – все они были просто замечательными по отношению к больным. Они ничего не боялись, но понимали, как относится к нашей болезни государство, а вслед за ним и общество. Они меня учили: «Никому ничего не говори про ВИЧ. Скажи, что у тебя гепатит В – меры предосторожности те же самые». Чудесные люди, они действительно хотят помогать больным. Но у них нет возможностей. Этих возможностей им – а заодно и нам, больным, - не дает государство. Оно предпочло бы, чтобы мы все поскорее умерли».

**Ирина Халип**
**специально для charter97.org**

## АБ'ЯВА

*• Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Крывінка» паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.*

*• Калі прачыталі "Крывінку", то калі ласка, перадайце знаёмым.*

*• Наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamnikat.org/kryvinka.html каталагу "Пэрыёдыка" для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.*

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# ДВА СУСВЕТЫ — ДВА ЛЁСЫ

**Мне давялося зноў перасекчы Атлантычны акіян, бо нарадзіўся чарговы амерыканскі ўнук. Пяць гадоў таму я ўжо меў магчымасць на асабістым досведзе пераканацца, што значыць жыць ва ўмовах капіталізму.**

Два сусветы — два лёсы. І з гэтым не паспрачаешся. «Нарадзілася дзіця, — тут я цытую фрагмент з інаўгурацыйнай прамовы адзінага палітыка (АП), — да трох гадоў адзін з бацькоў мае магчымасць сядзець з малым, выхоўваць яго, атрымліваць бясплатныя лекі».

Гэта ў нас. А ў Амерыцы дародавага адпачынку няма наогул, а пасля родаў — шэсць тыдняў. Круціся як хочаш. Вось і лётае дзед-пенсіянер праз акіян «за кошт запрашаючага боку».

Натуральна, пасля вяртання сябры і знаёмыя задаюць стандартнае пытанне: «Ну як там Амерыка?» Але адкуль я ведаю, як там яна? Я тры месяцы прасядзеў у чатырох сценах. Далёка не кожны тыдзень мяне вывозілі ў бліжэйшы гандлёвы цэнтр, і раз на месяц мы ездзілі «праветрыцца» ў адзін з бліжэйшых гарадоў. З такім досведам наскрэсці матэрыял на «Азбуку паліталогіі» не так проста. Аднак я паспрабую.

**4 ахоўнікі замест 150**

Адна з вандровак была звязана з паездкай у Вашынгтон на Нацыянальны фестываль квітнення сакуры (National Cherry Blossom Festival). У цэнтры амерыканскай сталіцы высаджаны тры тысячы японскіх вішань. Дрэвам больш за сто гадоў. У 1912 годзе іх падарыў гораду мэр Токіа.

Выдатнае надвор'е. Тысячы людзей гулялі пад квітнеючымі дрэвамі. Шпіль манумента Вашынгтона на фоне Белага дома і... ніводнага паліцэйскага, ніводнага! І гэта за пяць гадзін пікніка! А за тры месяцы «жыўцом» я бачыў паліцыянтаў толькі адзін раз. У кафэ гандлёвага цэнтра яны зайшлі папіць кавы.

Яшчэ адна дэталь: адсутнасць платоў перад індывідуальнымі дамамі. Задні двор — не лічым. Але страх перад рабаўнікамі тут ні пры чым. У раёне, у якім я жыў, усе задняя двары выходзілі ў лес, а там поўна аленяў і іншай жыўнасці. Акрамя таго многія домаўладальнікі трымаюць сабак. Наяўнасць плоту ў такіх выпадках абавязковая.

Але ад прыватнага прыкладу падымуся да абагульнення, запазычанага ў інтэрнэце з артыкула «Чаму трактарны завод застанецца ў Канадзе»: «У мэтах аховы і прадухілення парушэнняў правапарадку на тэрыторыі завода ў Растове-на-Доне прадпрыемства вымушана ўтрымліваць вялікі штат аховы (каля 150 чалавек). Выдаткі ўключаюць у сябе заработную плату, уніформу, страхоўку, утрыманне службовых памяшканняў, звязаныя падаткі. Штат аховы на заводзе ў Канадзе складае 4 чалавекі, а іх функцыі абмяжоўваюцца кантролем прапускной сістэмы і, у выпадку неабходнасці, камунікацыямі з органамі правапарадку».

Два сусветы — два лёсы. І гэта толькі адзін прыклад з артыкула. Мне, уладальніку запісу «вартаўнік» у працоўнай кніжцы, прыклад з ахоўнікамі асабліва блізкі. Як-ніяк год ахоўваў будоўлю побач з плошчай Бангалор у Мінску. Кругласутачная ахова. Высокі плот. Два сабакі. Без гэтай тройцы ўсё, што можна вынесці і вывезці, было б вынесена і вывезена. І гэтай шаноўнай справай заняліся б не прафесійныя рабаўнікі, а жыхары суседніх шматпавярховікаў.

Здаецца, усё насельніцтва краіны можна падзяліць на дзве групы: на тых, хто крадзе, і на тых, хто не крадзе. Да другой групы належаць, галоўным чынам, грамадзяне, папросту пазбаўленыя ў сілу розных абставін магчымасці красці.

І не трэба вінаваціць мяне ў імкненні ўзвесці паклёп на беларускі народ. Свежы прыклад. Камітэт дзяржкантролю завяршыў праверку сістэмы ЖКГ. Пра гэта ў эфіры тэлеканала АНТ заявіў старшыня камітэта Леанід Анфімаў: «На эмоцыях я б мог цяпер арыштаваць палову складу Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі...»




Работнікі міністэрства. Сур'ёзныя сталыя людзі. А па кожнаму другому турма плача! Што ж тады казаць пра жыхароў звычайных шматпавярховікаў...

**Чаго не хапае?**

У канцы красавіка ў садах Дзюпона расквітнелі цюльпаны. Час, які я выдаткаваў на іх сузіранне, быў узнагароджаны магчымасцю ўсвядоміць яшчэ адно з азбукавых адрозненняў паміж двума сусветамі. Уявіце невялікі фантан ля ўваходу ў аранжарэю. Падбягаюць два хлопчыкі і дзяўчынка гадоў 4–5. Кладуцца на мармуровую падлогу і пачынаюць далонькамі стукаць па вадзе. Пырскі ляцяць ва ўсе бакі. Нагуляўшыся, дзеці ўстаюць. На дзяўчынцы ружовыя нагавічкі. Яны, натуральна, мокрыя і брудныя. Як на гэта рэагуе мама? НІЯК!

Побач з маім домам у Мінску — альтанка, каля якой у добрае надвор'е тусуюцца маладыя жанчыны з малымі. Думаю, чытачам не трэба тлумачыць, якія чуюцца крыкі, калі малое з разбегу падае на асфальт. Як сказаў бы ў такім выпадку АП, «гвалтам крычаць».

А ў логаве імперыялізму, дзе чалавек чалавеку воўк, такое немагчыма ў прынцыпе. Вось на травяністым схіле куляюцца дзеці. На іх маечкі і джынсы. Але падышла дзяўчынка, разадзетая як Мальвіна, і далучылася да кампаніі. Бацькі сядзяць побач і пра штосьці спакойна размаўляюць. Карункавая сукенка — не падстава, каб адмовіць дзіцяці ў задавальненні пакатацца па траве.

Два сусветы — два лёсы, дзве стратэгіі выжывання. Адна абапіраецца пераважна на заах-вочванне. Іншая бярэ за аснову рэпрэсіі. «Гісторыя паказвае нам, — тлумачыць культуролаг Ігар Якавенка, — што тыя краіны, якія робяць стаўку на заахвочванне, развіваюцца дынамічна. А тыя грамадствы, што трымаюцца за рэпрэсіі, прайграюць».

Да якога сусвету належыць Беларусь, здаецца, вызначыць нескладана. Чытачам жа, у якіх паўстануць з гэтым цяжкасці, рэкамендую звярнуцца да выступленняў АП. Адкрываю ў сваёй кампутарнай бібліятэцы файл «Парадак і дысцыпліна»: «Я не разумею, чаго не хапае? Угнаенні ёсць, насенне ёсць. Усё ёсць. Вёска ўжо кажа, што тэхнікі не трэба больш. Але патрэбны парадак (выдзелена. — С.Н.)».

Парадак патрэбны, таму што яго няма. І за два дзесяцігоддзі актыўнага будаўніцтва беларускай мадэлі дамагчыся яго так і не атрымалася. Тут варта прыгадаць знакамітую характарыстыку айчыннай рэальнасці з «Аповесці мінулых гадоў»: «Земля наша велика и обильна, а порядка в ней нет».

Аднак гэта скажоны варыянт . У першакрыніцы — Іпацьеўскім летапісе — гаварылася: «…земля наша велика и обильна, а наряда в ней нет». Слова «наряд» з'яўляецца аднакарэнным са састарэлым словам «нарядчик» і захавалася ў сучаснай рускай мове ў выразах накшталт «наряд на работу». Азначала ж яно «распараджэнне», «кіраўніцтва». Акрамя таго, існуюць і рознячытанні гэтай фразы ў розных летапісах. Так, у Цвярскім летапісе гэтая фраза гучыць наступным чынам: «Вся земля наша добра есть и велика изобильна всем а нарядникъ в ней несть». Тут ужо гаворка ідзе пра «нарядника» — пра кіраўніка.

*(скарочана)*

**Сяргей Нікалюк**

БУДУЧЫНЯ

# «НАС ЖДУТ ВРЕМЕНА, ПОДОБНЫЕ КРИЗИСУ ПОСЛЕ РАЗВАЛА СОВЕТСКОГО СОЮЗА»

**В белорусском бюджете практически исчерпаны возможности для повышения зарплат, пенсий, пособий и стипендий, заявляют в Министерстве финансов. Экономист Ярослав Романчук полагает, что нас ждут времена, подобные кризису после развала Советского союза.**

**Резервы исчерпаны**

В Беларуси практически исчерпаны резервы для наращивания социальных обязательств. Об этом заявил первый заместитель министра финансов Максим Ермолович в интервью, которое опубликовано в майском номере журнала «Финансы, учет, аудит», издаваемого Минфином.

«Учитывая, что Беларусь остается социально ориентированным государством, большая часть расходов бюджета традиционно направляется на финансирование соответствующих статей, связанных с поддержкой населения. В данном случае корректно говорить не только об образовании, здравоохранении, культуре, спорте, но и транспортной отрасли, ЖКХ, сельском хозяйстве. Таким образом, в республике делается очень многое для сохранения на приемлемом уровне цен на товары и услуги наших граждан», — сказал Максим Ермолович.

При этом, подчеркнул он, данная работа проводится за счет бюджета. «В подобной системе нет ничего удивительного. Иных источников финансирования вышеназванных направлений еще не придумали ни в одной стране мира», — сказал первый замминистра финансов.

Однако, отметил Ермолович, свои желания нужно соизмерять с имеющимися возможностями: «К сожалению, в Беларуси для наращивания социальных обязательств резервы практически исчерпаны. Приступать в ближайшее время к реализации новых амбициозных задач вряд ли имеем смысл, так как они не подкреплены реальным финансированием».

Среди прочего, подчеркнул он, ограничения коснутся темпов повышения заработных плат, а также увеличения пенсий, пособий, стипендий. «Существенно наращивать такие затраты проблематично», — сказал первый замминистра финансов.

**Тяжелые времена**

Руководитель Научно-исследовательского центра Мизеса Ярослав Романчук считает, что власти идут именно на сокращение социальных расходов, потому что лобби крупного бизнеса в сфере промышленности и сельского хозяйства сильнее, чем давление населения.

«Власти уступают нажиму консолидированных и достаточно активных лоббистов, потому что они представляют информацию так, что от них властям будет больше проблем, чем от затягивания поясов населением. И сельское хозяйство, и промышленность продолжают получать непомерную поддержку, грубо нарушая публичные требования Александра Лукашенко не давать деньги убыточным и бесперспективным проектам. Население же, поскольку не имеет своего прямого представительства в органах государственного управления, будет нести увеличенное бремя нагрузки», — отмечает экономист.

В будущем, по его мнению, населению стоит готовиться к максимальной зарплате в 200 долларов и пенсии меньше 100 долларов. При этом цены и безработица будут расти, а курс рубля в условиях валютного дефицита останется нестабильным.

«Беларусь, по сути дела, вступает в полосу развала Советского союза 2.0. Мы впервые столкнулись с квадро-кризисом: структурным, системным, конъюнктурным и управленческим. Вдальнейшем он будет только усугубляться», — полагает Ярослав Романчук.

*(сокращено)*

**Александр Ярошевич**
**БЕЛАПАН**

ВЫЗВАЛЕННЕ

# «РОССИЯНАМ НЕЧЕГО БОЯТЬСЯ, С КОЛЕН НАДО ВСТАВАТЬ»

**Президент Украины Петр Порошенко вручил летчице Надежде Савченко орден «Золотая Звезда» — «за проявленное мужество и жертвенное служение украинскому народу».**

**Петр Порошенко в твиттере: «Наша Надя уже на украинской земле»**

Об этом в своем твиттере написал президент Украины Петр Порошенко: «Наша Надя уже на украинской земле. Рад поздравить ее с возвращением! Поздравляю украинцев и весь мир с нашей Победой! Слава Богу - в этот раз все удалось. Продолжаем борьбу за освобождение всех украинских заложников. Благодарю всех, кто помогал мне приближать сегодняшнюю победу. Долгие 709 дней плена наконец закончились».

Самолет с россиянами Александром Александровым и Евгением Ерофеевым приземлился во Внуково. Пресс-секретарь российского президента Дмитрий Песков подтвердил: самолет ГТК «Россия» доставил их в Москву.

**«Назло им я выжила»**

Прокричала Надежда в аэропорту журналистам.

— Я готова умереть каждую секунду за то, чтобы мы могли жить так, как мы хотим. Мы должны бороться за то, чтобы все остальные тоже оказались на свободе! Спасибо всем, и даже тем, кто желал мне зла - благодаря их словам я выжила! - сказала Савченко, сообщает Би-би-си.

В своем выступлении в аэропорту она также попросила прощения у тех, кто погиб в украинской АТО или попал в плен:

— Герои Украины не должны умирать, потому что очень выгодно, когда герои мертвы.

После эмоционального выступления, продолжавшегося несколько минут, она сказала журналистам: «Уважайте личное пространство человека. Я отвыкла от свободы, потому прошу прощения за резкость».

— Это реально приехал сильный лидер домой, - заявила Юлия Тимошенко журналистам после того, как пообщалась с Савченко.

По словам главы партии, Савченко «готова немедленно, уже сегодня, начать работать на Украину».

- Она мне задала первый вопрос: «когда приступать к работе»? Она сказала: «Мне уже сейчас ехать на работу?». Она спросила, где ей завтра быть, куда завтра приходить и приступать к работе, - добавила лидер фракции.

Тимошенко также подчеркнула, что готова всячески помогать Савченко в полной мере реализовать свой «уникальный потенциал и уникальную моральность и способность служить Украине».

Тем временем журналисты «Украинских новостей» обратили внимание на то, что Савченко отказалась принять букет цветов от Тимошенко.

— Лучше отдайте цветы моей маме, - объяснила украинская военнослужащая, добавив, что цветы ей не нужны.

Президент Украины Петр Порошенко заявил о намерении вернуть Донбасс и Крым.

— Как мы вернули Надежду, так вернем Донбасс и Крым, — заявил Порошенко.

**Порошенко вручил Савченко орден «Золотая Звезда»**

Как сообщает «Газета.Ru», Порошенко вручил Надежде Савченко орден «Золотая Звезда» — знак отличия Героя Украины — «за проявленное мужество и жертвенное служение украинскому народу». Матери Савченко он вручил огромный букет.

В свою очередь Савченко пообещала сделать все, чтобы минские соглашения выполнялись.

— Украина имеет право быть, несмотря на чью-то больную душу или голову, — заявила она на пресс-конференции.

— Я вам хочу сказать... в первую очередь передать привет россиянам и сказать, что нечего бояться, с колен надо вставать. Я понимаю, что не та страна, в которой с колен встать легко, но если они хотят так же жить в согласии, как и мы, то им нужно вставать с колен, а нам надо не дать им прийти сюда, - заявила Савченко во время совместной пресс-конференции с президентом Украины Петром Порошенко.

Она отметила, что будет работать, чтобы каждый пленный украинец вернулся живой, и чтобы Украина была сильной, а народ не был забыт, сообщает "УНИАН".

СУДОВАЯ СПРАВА

# "НЕ ПРЕДСТАВЛЯЮ, ЗАЧЕМ ОБЕЗГЛАВЛИВАЛИ НАШЕ ПРЕДПРИЯТИЕ"

**23 мая в Верховном суде продолжились прения по делу сенатора и гендиректора Витебской бройлерной птицефабрики Анны Шарейко и еще шести обвиняемых. Стороны обвинения и защиты обменялись репликами, а обвиняемые выступили с последним словом.**

Гособвинитель Анатолий Метельский отметил, что из обвинения исключили только совершение преступления в группе и материальный ущерб, остальное обвинение поддержано в полном объеме — создание Норкусом цепочек подконтрольных ему фирм для получения дохода, личная заинтересованность Норкуса и Шарейко в результатах конкурсов и т.д. Обвинение также обратило внимание на свидетельства юристов Протасовицкого и Амельчени, которые поясняли, где были нарушения членов комиссии при проведении переговоров.

Адвокаты, по мнению прокурора, пытались опорочить показания юристов, называя Протасовицкого теоретиком. «Эти доводы считаю несостоятельными, он высококвалифицированный юрист», — заявил гособвинитель.

Адвокат Шарейко Татьяна Сычева сказала о том, что реплика обвинения повергает защиту в шок. Речь о словах, что прокурор полностью подтверждает обвинение, но отказывается от «группы» и особо крупного ущерба. Это, по мнению защитника, создает состав преступления, не предусмотренного законом. Переквалифицируя статью на часть 2, а не 3 (группа по предварительному сговору), надо понимать, что каждое обвинение должно выстраиваться самостоятельно — ведь группы нет. «Исходя из существующего обвинения, нельзя понять, кто и в чем обвиняется, пока вменяется все и всем», — отметила адвокат.

При этом абсолютно непонятно, что такое общественный интерес, как его подорвала Шарейко.

Комментируя заявления юриста Протасовицкого, Татьяна Сычева отметила, что он «такой же адвокат, как и мы, нас здесь 7 человек, и у некоторых тоже есть степень».

«Он ничем не лучше других юристов. Мнения юристов не имеют никакого отношения к должностным действиям обвиняемых. Если нет ущерба, а ущерба фабрика не понесла, значит существенного вреда от ее деятельности быть не может», — считает защита.

Защитник Норкуса Ирина Карасевич обратила внимание на то, что адвокату даже не дали ознакомиться с письменным носителем нового обвинения: «Люди не знают, в чем обвиняются. Прошу оправдать, только такой приговор может восстановить попранную справедливость».

Адвокат Михаила Разживина Борис Лесковский обратил внимание, что из всех контрактов с «Русском-Р» обвиняемым вменяется в вину 5, а контрактов более 40. «То есть это не может считаться продолжаемым преступлением. А тогда обвинение должно конкретизировать ущерб и вред по каждому конкретному эпизоду», — отметил защитник.

Затем в суде выступили обвиняемые с последним словом.

Анна Шарейко подчеркнула, что работала на птицефабрике со студенческой скамьи, всегда трудилась добросовестно и работала с позиции государственного человека: «Никакие личные отношения не могли повлиять на мое отношение к фабрике».

Она отметила, что неоспорим факт того, что при ней фабрика стала одним из самых успешных предприятий страны. «Предприятие развивалось, наращивало объемы, выполняло доведенные показатели, никогда не имело долгов перед бюджетом, по зарплате и за энергоносители», — подчеркнула бывший руководитель фабрики.

Шарейко отметила, что не хочет носить пятно преступника, которое «не заслужила никоим образом». Она также подчеркнула, что хочет понять, чем руководствовались представители правоохранительных органов, обезглавливая крупное многопрофильное предприятие в разгар реализации стратегических для предприятий и отрасли проектов, в том числе речь идет о строительстве мощного комбикормового завода, который в данный момент находится в стадии пуско-наладки, хотя ввести в строй его планировали еще в конце 2014 года.

Более 120 млрд рублей фабрикой потеряно, констатировала гендиректор фабрики. Потребовалось время для того, чтобы новому руководству вникнуть в проект, и банки стали иначе относиться к некогда благополучному заемщику. Потери фабрики за прошлый год Шарейко оценила в 110 млрд рублей. Потери фабрики за период сидения в СИЗО ключевых специалистов, по мнению Шарейко, достигают 230 млрд рублей.

Заместитель Анны Шарейко Надежда Семченкова не признала себя полностью виновной и напомнила, что уже изложила свою позицию в двух обращениях к президенту.

Она рассказала, что в 2013 году на фабрику приняли на работу сотрудника правоохранительных органов под прикрытием, который позже приходил в СИЗО, утверждая, что коллектив обвиняемых не поддерживает. Этот сотрудник, считает Семченкова, подрывал работу предприятия, распространял ложные слухи об администрации предприятия, но не добился того, чтобы коллектив поменял мнение о своих руководителях. «Анонимка, положенная в основу обвинения, это письмо, написанное Министерством внутренних дел, что потребовалось для заведения уголовного дела», — уверена обвиняемая.

Шесть обвиняемых попросили их оправдать. Седьмой, признавший свою вину, попросил вынести «объективный приговор».

Суд удалился в совещательную комнату. Приговор будет вынесен в 10 часов 10 июня.

tut.by

**Заснавальнік і рэдактар:** Станкевіч Георгій Мікалаевіч

**Адрас рэдакцыі:** Бешанковіцкі раён, в. Старыя Ранчыцы, e-mail: stan62@list.ru, тэл. 60237, маб. +375292184739
Газета выдаецца з сакавіка 2005г.

**Падпісана да друку 30.05.2016 у 17.30**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на ўласным абсталяванні.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.